# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 44 (1642) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 1 ЛІСТАПАДА 1987 г. ЦАНА 12 зл.


## 70 МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Многія тысячы беластачан — выхадцаў з вёсак, мястэчак і самога Беластока — звязалі свой лёс з рэвалюцыйнымі падзеямі ў Расіі. Належалі яны да Сацыял-дэмакратычнай партыі Каралеўства Польскага і Літвы, Польскай сацыялістычнай партыі — лявіцы, Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў), удзельнічалі ў Лютаўскай рэвалюцыі, стваралі рэвалюцыйныя камітэты ў рускай арміі і саветы рабочых і салдацкіх дэпутатаў, былі байцамі Чырвонай Гвардыі. Нашы суродзічы змагаліся ва ўзброеных паўстаннях у Петраградзе, штурмавалі Зімовы палац, здабывалі маскоўскі Крэмль, у дывізіях Чырвонай Арміі біліся ў бяскрайніх стэпах Украіны і пустынях Сярэдняй Азіі — яны былі ўсюды там, дзе йшоў бой за рабоча-сялянскую ўладу.

Ад сённяшняга нумара „Нівы“ пачынаем прыпамінаць імёны некаторых нашых землякоў, нярэдка ўжо прызабытыя, але для ўсіх нас яны застаюцца вечна жывымі змагарамі за лепшую будучыню ўсіх працоўных, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне ўсіх народаў.

### СІГНАЛЬНЫ РЭВАЛЮЦЫІ



Якуб Мартынюк нарадзіўся ў 1890 годзе ў вёсцы Новае Беразова на Гайнаўшчыне. У 1913 г. яго прызвалі ў царскую армію і там накіравалі на вучобу ў артылерыйскае аддзяленне. Ад пачатку 1915 г. Я. Мартынюк — матрос крэйсера „Аўрора“. Ён

(Працяг на стар. 4)



Уладзімір Хіліманюк любіць прыроду, асабліва кветкі. У мінулым годзе ён [illegible] у конкурсе на найпрыгажэйшы агародчык у мястэчку.

## ЦІ НАРВА СТАНЕ КУЛЬТУРНЫМ ЦЭНТРАМ?

У чым прычына застою культурнай дзейнасці ў Нарве? Аб'ектыўных прычын можна знайсці многа. Я хачу аднак выказаць найперш маё суб'ектыўнае адчуццё ў гэтай справе. Так павялося ў Нарве, і бадай здаўна, што сярод саміх людзей тут няма імкнення ствараць, анімаваць, разгортваць культурную дзейнасць. Ці не адчуваецца тут такой патрэбы, ці звыкліся людзі з пасіўнасцю і, маючы час (а час людзі маюць), хутчэй спяшаюцца ў мясцовую гасподу, чым у святліцу? У гасподзе заўсёды людна, яна поўна мужчын, якіх, каб і кіпецень пад іх падліць, хіба не зварухнеш з месца.

Аднак трэба па справядлівасці назваць і адну аб'ектыўную важкую прычыну: у Нарве няма базы для культурнай дзейнасці і культурнага правядзення часу. Куды ж у такім выпадку мае ісці чалавек, маючы вольны час?

Нават паводле апініі беластоцкага віцэ-ваяводы (глядзі „Ніву“ № 22 ад 31.V.1987) Нараў належыць да гмінных цэнтраў з найгоршай базай для культуры. Стары, шэры, непрытульны і халодны будынак мясцовай святліцы ў ніякім выпадку не можа быць базай для якой-небудзь культурнай працы.

А ўсё ж паявілася ў Нарве надзея на ажыўленне культуры. Новым дырэктарам ГОКа стаў малады, вопытны ў грамадскай працы чалавек — Уладзімір Хіліманюк. У нас з ім адбылася цікавая размова аб перспектывах культуры ў Нарве.

— Валодзя, вы ўзялі на сябе цяжкую працу. Мы жадаем вам удач. Згодны з вамі, што ўрэшце абсалютна сур'ёзна трэба за-

(Працяг на стар. 5)

НАШ КАМЕНТАРЫЙ

## ПЕРАБУДОВА ПА-ПОЛЬСКУ

На нашых вачах здзяйсняецца зараз карэнная перабудова эканамічных і грамадскіх структур у Польшчы. Аб перабудове па-польску гаварылася на V пленуме ЦК ПАРП, а яшчэ шырэй і болей канкрэтна разглядалася гэтая важная праблема ў час XXIV пасяджэння Сейма. Выступаючы перад пасламі, старшыня Рады Міністраў ПНР Збігнеў Меснер так акрэсліў галоўныя мэты гэтай перабудовы, названай у нас **другім** этапам гаспадарчай рэформы.

„...Хочам вызваліць прадпрыемлівасць гаспадарчых адзінак і паасобных грамадзян, гарантаваць задавальненне ад працы, замацаваць гаспадарчую раўнавагу, значыць, устанавіць добра функцыяніруючы рынак і моцную валюту, якая заахвочвала б да добрай і высокапрадуктыўнай працы; хочам так перабудаваць нашу гаспадарку, каб была яна лепш арганізавана, каб абапіралася на правідловыя прынцыпы, якія адлюстроўваюць сапраўдныя эканамічныя ўзаемаадносіны...“

Крыху далей у сваім сеймавым выступленні старшыня Рады Міністраў адзначыў, што рэформа не можа абмяжоўвацца толькі перабудовай эканамічных суадносін. Неабходны таксама адначасовыя змены ў палітычным жыцці, якім спадарожнічала б паслядоўная дэмакратызацыя і пашырэнне самакіравання, перамена дзяржаўных структур.

У далейшай перспектыве будзе яна гарантаваць нам спакойнае, стабільнае і заможнае жыццё. Але — толькі руплівым людзям, якія добрасумленна запрацуюць на дабрабыт сваёй сям'і. Гэта, аднак, перспектыва далекаватая, некалькігадовая, бо няма ніякай перабудовы без грамадскіх ахвяр, без коштаў. Купляючы ў краме малако, хлеб, масла, мяса і дзесяткі іншых вырабаў, рэдка калі хвалюе нас той факт, вядомы ўсім нам, што да кожнай бутэлькі малака, да кожнай буханкі хлеба і гэтак далей... нейкую частку цаны дакладае за нас дзяржава. Дакладае кожнаму: і таму, хто ў месяц зарабляе звыш 50 тысяч злотых, і таму, у каго зарплата не перавышае 20 тысяч зл. Аднак дзяржава сваіх грошай не мае. Толькі наіўныя людзі могуць меркаваць, што дзяржава можа сабе надрукаваць столькі грошай, колькі

(Працяг на стар. 2)




# АБ ГРЫБАХ

Я не з'яўляюся выдатным збіральнікам грыбоў. Аб маім даволі слабым умельстве ў гэтай галіне можа сведчыць наступны факт. Некалькі гадоў таму назад у лесе сустрэў я Мікалая Хлябіча з Рыбалаў, які спытаў мяне здалёк: „Ну, як, ёсць грыбы?" Я адказаў, што няма, бо хаджу дзве гадзіны, а знайшоў усяго шэсць грыбоў. А Хлябіч мне на гэта: „А я хаджу дзве гадзіны, але знайшоў шэсцьдзесят баравікоў". З недаверам падышоў я да Хлябіча і ўбачыў поўны кошык праўдзівых белых грыбоў.

Нягледзячы на гэта люблю хадзіць у грыбы. У гэтым годзе ў жніўні я хадзіў дзесяць дзён падрад. і прынёс поўных дзесяць кошыкаў. Зразумела, не баравікоў, хаця і яны трапляліся. Найбольш знаходзіў чырвонагалавікоў, казлякоў і падгрыбкоў. І гэта сведчыць аб тым, што грыбоў было многа і кожны няўмека мог іх назбіраць.

Зрэшты, хачу гаварыць тут не аб тым, што я дрэнны ці добры збіральнік, а аб вялікім сэнсе хаджэння ў грыбы. Праўда, не вельмі хочацца ўставаць з цёплай пасцелі а пятай гадзіне раніцы. Калі аднак ужо ўстанеш і выйдзеш на двор, убачыш шэры, вільготны, пакрыты расою свет. Ідзеш пустой дарогай і ўзыходзіш на росную сцежку, якая вядзе цябе ў абдымкі беларускага лесу. Калі ты ўжо ў ім, твае ногі ўзыходзяць на шэры або зялёны дыван моху. Тут-сют галінка сцебане цябе па твары, або павуцінне павісне на тваіх вейках і носе. І ўсё гэта, здавалася б, не вялікая прыемнасць. Але ж колькі вакол прыемнай кампенсацыі: цудоўны водыр паветра, чыстая свежая зелень, далёкі крык птушак, паволны бег зайца або лані, якія паднімуцца з зямлі і пададуцца ў гушчар лесу. І колькі ж у гэтым густым лесе прасторы для спакою і роздуму! Ідзеш па хараству і праз хараство і цешышся, што далёка па-за табой, як бы ў іншым свеце, засталіся цывілізацыйныя аспекты жыцця: імкненні, кар'ера, зайздрасць, удачы і няўдачы.

А лес спакойны-спакойны, а лес прыгожы-прыгожы. Але які ж ён іншы, чым лес майго дзяцінства і маладосці! Калісьці ў лесе былі пазбіраны ўсе галінкі. Не толькі тыя, якія ляжалі на зямлі, але былі абламаны ўсе тыя, да якіх можна было дабрацца пілой-аднаручкай, сякерай або басаком. Былі таксама дакладна выграблены кастра і мох, якія выкарыстоўваліся ў якасці падсцілкі ў хлявах. Сёння лес завалены не толькі галлём, але ў многіх месцах пакінутымі вяршамі ссечаных сосен, але ляжаць і цэлыя сосны, моцна падгнілыя. Я спачатку не ведаў, адкуль узялася ў нашых лясах такая злавесная самаволя. Аказваецца, што выступае яна асабліва на палетках пенсіянераў, якія аддалі зямлю дзяржаве, бо іх лясныя палеткі сталіся „нічыімі". Але і на палетках, якія маюць уласнікаў, не мала беспарадку. Трэба сказаць, што гэтыя беспарадак надае лясам выгляд прывабнай і паэтычнай дзікаватасці, якая, аднак, не зусім добра сведчыць аб нашай гаспадарнасці.

І так, ідзеш сабе па лесе і час ад часу знаходзіш або баравічок, або падгрыбок, або чырвонагалавік, і тады з вялікай асалодай падсякаеш яго корань і кладзеш у кошык. А здараецца і так: ідзеш вельмі доўга, не знаходзіш нічога і пачынаеш ужо траціць надзею. І раптам знаходзіш цудоўны баравік з вялікім чорным капелюшом. Згінаешся над ім, хапаеш за корань, а капялюш адвальваецца і падае на зямлю. Як жа гэта бывае!.. Праб'е такі грыб цвёрдую зямлю, вывернецца з-пад жорсткай галіны, але знішчаць яго маленькія чарвячкі. Прысядзеш над такім грыбам і першы жоўты ліст з бярозкі падае на тваю руку. Паднімаеш зрок і бачыш, што значная колькасць лістоў ужо пажоўкла. Значыць, восень ужо, восень. І мімавольна думаеш аб тым, што многіх тваіх аднагодкаў няма ўжо сярод жывых і што невядома калі твая чарга надыдзе. Невядома. Ужо восень. Аднак не перажывай, чалавеча! Цешся, што маеш сяброў, цешся, што бачыш крыху свету, цешся, што не бегаў з даносамі на знаёмых, цешся, што нідзе не ляжыць напісаны табой анонім, цешся, што жывеш і што ў роднай беларускай зямлі не адна кропля поту праліта табой у час сенакосу і жніва. Ідзіце, дарагія чытачы, у лес! Не важна, колькі знойдзеце грыбоў. Важна тое, што падабрэеце, што, увaходзячы ў лес, упускаеце дабрату і высакароднасць лесу ў сябе.

**Алесь Барскі**

# НОВАЕ ПАМЯШКАННЕ ВАРШАЎСКАГА АДДЗЕЛА

Праўленню Варшаўскага аддзела БГКТ удалося ўрэшце атрымаць новае памяшканне. Знаходзіцца яно ў цэнтры сталіцы на вуліцы Старасцінскай 16 (непадалёк кінатэатра „Масква"). У параўнанні з папярэднім, новае памяшканне куды больш абшырнае (120м²) і прыдатнае для культурнай дзейнасці. Апрача праўлення, будуць тут дзейнічаць клуб і бібліятэка. Знойдзецца таксама месца для кавярні, студэнтаў і мастацкіх выставак. Прадбачваецца нават гасцінны пакой.

Клуб працуе ў гадзінах:

| | |
|---|---|
| Панядзелак | 18-20; |
| Аўторак | 18-20; |
| Серада | 18-20; |
| Чацвер | 16-21; |
| Пятніца | 18-20 |

### ХТО ВЕДАЕ, ХТО ЧУЎ?

Галоўная камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Польшчы, Інстытут нацыянальнай памяці, а таксама Акруговая камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку звярнуліся да нас з просьбай дапамагчы ў пошуках людзей, якія, магчыма, знаходзіліся ў час акупацыі на прымусовай працы, або ў карным лагеры ў Сувалках, які быў наладжаны ля вуліцы Аўгустоўскай. Хто ведае пра гэты лагер, хто чуў пра яго, хай пазвоніць па тэлефону 273-34 у Беластоку або хай напіша па адрасу: Акруговая камісія па даследаванню гітлераўскіх злачынстваў у Беластоку, вул. М. К. Складоўскай 1. Працаўнікі гэтай камісіі намагаюцца ўстанавіць гістарычную праўду пра зверствы гітлераўцаў, бо гэтая праўда запярэчваецца зараз або перайначваецца некаторымі рэваншыстамі. Дзеля гэтага варта крыху паклапаціцца.

**(вр)**

# ПЕРАБУДОВА ПА-ПОЛЬСКУ

**(Працяг са стар. 1)**

захоча. Тут трэба кіравацца вельмі строгімі эканамічнымі законамі. Заможнасць дзяржавы абумоўлена заможнасцю яе грамадзян і добрай арганізацыяй вытворчасці. Калі тавар прадаецца ніжэй сабекошту прадпрыемства, якое яго выпускае, дык гэтае прадпрыемства не мае аніякага заахвочвання, каб імкнуцца да павышэння сваёй вытворчасці, бо навошта, то ж дзяржава са свайго бюджэту і так кампенсуе яго затраты. Гэты час ужо канчаецца. Такія асноўныя прынцыпы перабудовы па-польску.

Значыць, парадкаванне гаспадаркі адначасова абазначае і парадкаванне структуры цэн. Гэтага ніхто не скрывае, бо гэта кошт будучай стабілізацыі. Войцех Ярузельскі, падсумоўваючы спрэчкі ў час V кастрычніцкага пленума ЦК ПАРП, адзначыў, што кошты гаспадарчай рэформы трэба так раскласці на асобныя слаі польскага грамадства, каб яны, гэтыя кошты, супадалі сваім цяжарам з прынцыпамі грамадскай справядлівасці. Старшыня З. Меснер запэўніў паслоў і грамадзян, што цяжар гэтых коштаў будзе кампенсаваны дабаўкамі да зарплаты.

Хворую польскую гаспадарку можна лячыць двума спосабамі: далікатна, памалу, раскладаючы надакучлівы боль на доўгія гады, або болей раптоўна і балюча, затое хутчэй. Выбар метадаў і шляху ажыццяўлення нашай перабудовы пастаноўлена паставіць на выбар усім грамадзянам. З прапановай аб усенародным рэферэндуме выйшаў ПРОН. Падтрымала яе партыя, акцэптаваў Сейм ПНР, які прыняў, як вядома, спецыяльную пастанову аб наладжанні агульнадзяржаўнага рэферэндума ў справе ажыццяўлення другога этапу нашай рэформы.

Партыя і ўрад не скрываюць сваіх спадзяванняў, што ўсе мы прагаласуем за болей радыкальны вар'янт рэалізацыі гэтай перабудовы. Урад, дарэчы, дае заманлівы прыклад, пачынаючы карэнныя перамены ад перабудовы цэнтральных органаў кіравання, аб чым болей падрабязна паведамлялі штодзённыя сродкі масавай інфармацыі, дык няма патрэбы паўтараць тут ужо добра вядомыя факты.

Затое я бачу неабходнасць падрыхтоўкі да сустрэчы гэтых карэнных перамен у нашай краіне з боку нас, беларусаў, пражываючых у Польшчы.

Пры новых умовах у нашай краіне, у першую чаргу стаўка на самастойнасць, прадпрыемлівасць, руплівасць і кемлівасць. Старшыня Рады Дзяржавы зноў апавясціў з сеймавай трыбуны, што з боку дзяржаўнай улады будзе зроблена ўсё, каб нішто не перашкаджала разгортванню ініцыятыўнасці кожнага грамадзяніна. **Усё дазволена, чаго не бароніць права!** Кожны прадпрыемлівы чалавек, які мае ахвоту заняцца нейкім бізнесам, ужо не патрабуе прасіць дзеля гэтага спецыяльнага дазволу ў мясцовай улады, а хопіць толькі, каб ён зарэгістраваўся, што, маўляў, пачынаю гэта ці тое рабіць. Ніхто не забароніць яму разбагацець, але ніхто таксама не пашкадуе, калі ён праваліцца, абанкроціцца.

А мы ў БГКТ каторы год гаворым ужо аб наладжванні гаспадарчай дзейнасці, каб былі ў нас уласныя, парадачна запрацаваныя грошы, каб не вымушаны былі мы за кожнай залатоўкай працягваць руку ў бок дзяржавы. Ці сярод нашай нацыянальнай супольнасці не знойдуцца таленавітыя, адважныя і прадпрыемлівыя людзі, якія захацелі б раскруціць нейкі бізнес, нават прыцягнуць замежны капітал, заахвоціць да капіталаўкладанняў у Беластоцкім краі нашых суродзічаў з далёкага свету? То ж у нашых вёсках стаяць пустыя будынкі, ёсць там электраэнергія, а часта і водаправоды. А дзесяткі кіламетраў трэба ехаць селяніну, каб адрамантаваць радыё ці тэлевізар, або электрарухавік, не гаворачы ўжо аб матацыкле, аўтамабілі ці трактары. А, можа, наладзіць пашыўку вопраткі ці выраб чагосьці іншага, каб дзяўчаты і жанчыны знайшлі падручны і парадачны занятак у сябе на месцы, а для мужчын, скажам, арганізаваць выраб цэглы, чарапіцы ці мэблі або будаўнічай сталяркі, шалёўкі ці... ну, Бог ведае яшчэ чаго. Ёсць жа сотні розных магчымасцей. Трэба памятаць, што над бедным ніхто болей плакаць у нас не будзе.

Рэформа ўводзіць новую форму супольнай уласнасці, — **камунальную ўласнасць.** Значыць, у многіх гмінах і гарадах, таксама і нашага Беластоцкага краю знойдзецца такая ўласнасць, якая застанецца ў распараджэнні радаў народовых і дазволіць узмоцніць мясцовыя іх фінансы. У гэтых радах, асабліва ў мясцовых, знаходзяцца ж нашы людзі, такія ж беларусы, як мы ўсе разам. Ад іх залежыць, якую карысць можа мець ад гэтай камунальнай уласнасці беларуская нацыянальная меншасць у Польшчы. А для БГКТ гэта ж новае поле грамадскай актыўнасці. Значыць, перабудова па-польску зводзіцца канчаткова да таго, што свет зараз прыналежыць смелым і кемлівым.

**Віктар Рудчык**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 341

# ЮРЫЙ КІСЯЛЕЎСКІ



Нарадзіўся ў горадзе Гродна ў 1961 годзе. Два гады таму назад закончыў медыцынскі інстытут. Цяпер працуе ў гэтым жа інстытуце на кафедры біяхіміі. Рыхтуе кандыдацкую дысертацыю. Ужо год як займаецца літаратурнай творчасцю. Спачатку гэта былі пераклады. Пасля прыйшлі ўласныя вершы, друкаваліся яны ў наваполацкім „Хіміку" і „Гродзенскай праўдзе". Сёлета падборка яго вершаў была змешчана ў „Літаратуры і Мастацтве". Належыць да гродзенскага клуба „Паходня", які аб'ядноўвае беларускамоўную інтэлігенцыю розных прафесій.

Сёлета ў жніўні Юрый Кісялеўскі наведаў нашу рэдакцыю і перадаў нам нізку сваіх вершаў, якія з прыемнасцю друкуем.

## КАСТРЫЧНІК

Кастрычнік радасна малюе краявіды:
Палеткі бурыя і рыжыя сады,
І дымам вогнішчаў далёкіх перавіты
Грабеньчык на гары — сасоннік малады.

Абмаквае, мастак, старанна і рупліва
Ён дрэвы цэлыя ў блакітныя стаўкі.
Выводзіць пэндзлямі адценні, пераліўы
І воблак залаціць бялюткі, трапяткі.

Паклоннік чыстых фарбаў, класік прававерны,
З палітраю карпіць нястомна з году ў год.
Не зменіць нізашто ён творчае манеры,
Не спыніць нізашто стваральны светлы ўзлёт.

Такая цішыня на гэтым вернісажы!
І аж да той пары, як зробіцца цямно,
Спыняюць бег свой людзі і глядзяць уважна
На бессмяротны твор, жывое палатно.

## РОДНАЙ БЕЛАРУСІ

Цябе малююць з прагнай асалодай
Такой прыгожай, ялялечнай падчас...
Табе ж не трэба штучнай пазалоты
І грому не патрэбна гучных фраз.

Ты не дзівосны кут, ты край звычайны
Маленькіх вёсак, сціплых гарадоў.
Твая гісторыя не рве і не злучае
Прастор зямель і бурны ход вякоў.

Была не раз на ратным раздарожжы,
І процьма бед кружыла над табой, —
Ты заставалася заўжды непераможнай,
Маўклівай, працавітай і жывой.

Такой цябе прыпомню я скрозь слёзы
Праз безліч год, з любой далечыні,
О Беларусь, — палеткі ды бярозы,
Ды сінь ў вачах, ды сонца ў вышыні.

## СОНЦА ПРАЎДЫ

Калі мне крыўда раптам перапыніць смех
І сумны выйду я на вёрткае шматлюддзе, —
Заўсёды знойдзецца вясёлы пустабрэх:
Маўляў, няма на свеце праўды і не будзе.

Здаецца, гэтай думкі шчырая мана
Павінна суцяшаць у роспачы ці ў скрусе.
Ды я не веру ёй, бо грош тады цана
Майму жыццю ў заганным чорным крузе!

Ці ж быў бы на лугах квітнеючы кілім,
Блакіт нябёс і плёскат белых крылаў,
Гучаў бы навакол жыцця нястрымны гімн, —
Каб сонца праўды ярка не свяціла?

Пятка з Нэвалем валілі папаленыя муры.

Яны нанялі хэўру, згадзілі ўсіх у рэстаране Дзюбаграя. Пасля, гурмою, пайшлі на забаву ў бажніцы, у якой механікі з фронту паказвалі спачатку кіно пра вайну.

Пятка хваліўся Нэвалю, што ў аўсяное жніво знайшоў ён на лужку ў Разбойніку нямецкі рэвальвер.

— Нашто ён табе, — сказаў яму Нэваль, але так, каб ніхто не чуў. — Аддай яго мне, чуеш?

— Банды з лесу ўжо не прыходзяць, спі і храпі, Нэваль...

Нэваль кінуў слухаць, што гаварыў яму Пятка. Такіх, як Пятка, язык губіць. Усе паўсядаліся кругам у буфеце і асушылі першую паўлітроўку.

— Ну і як, хлопцы: заўтра валім, хлопцы, пошту? — запытаў Нэваль, каб не маўчаць. І хоць не перакрыкваў ён усяго гэтага гвалту тут, салдацкіх спеваў тых, што паварочаліся былі з Нямеччыны, яму адказалі:

— Ты, Нэваль, — войт, ты і камандуй!

— Пяткі будзеце слухацца, хлопцы, ён у мяне, чуеце, камандзер, — прабубніў, аж прыўстаўшы як быццам. — Афіцэр ён, бальшавікоў страляў у рэвалюцыю!

— Нэваль, каб ты аблез! — прашыпеў Пятка; схапіўся з табурэткі і, здавалася, шукае рукою кабуру.

— Не кіпі, Пятка, ага, Нэваль нічога не сказаў, — загаварыў адзін з іх, насаты. Яму патакнулі, а п'янейшы цыганок свой грош дакінуў: — А хіба хто не ведае, што Нэваль у Пільсудскага быў...

— Быў я ці не быў, хлопцы, не твая справа, смургель ты, — Нэваль не дакончыў наліваць чаркі. — А ён, — зіркнуў на пацямнелага Пятку, — хай ведае і не забывае, і няхай добра служыць цяпер, хлопцы, бо калі не, то я...

## НА ПАЖАРЫШЧЫ

— Ай, знайшлі аб чым трэліць, — перабілі войта.

Заядла сцябалі гарэлку, мала не пападаўшы, пакуль аціхла дурата; у гэты раз нікога не парэзалі, толькі музыканту ўгрэлі па мухаедах, бо ён захутка скончыў „кацюшу".

У панядзелак пралазілі цалюткі божы дзень; урэшце збілі яны высокую драбіну — пошта мела два паверхі. Пятка даваў наганяй. Беластоцкі крадзежнік з'явіўся па цэглу сваім абозам, мужыкам заказаў у Дзюбаграя паўскрынкі манапалькі, а сам выпіваў з Нэвалем. Пятка выбягаў ад іх злосны і чырвоны, здалёк дзёрся:

— Валі-ііі!... Валі-іі-ііі!...

Адбрэхвалі яму:

— Сам валі, каб ты ўваліўся!... Трэба драбіну!

— А жэрдкаю!... Жэрдкаю расшугаць! — камандаваў Пятка, дабягаючы да зграі. — Няма часу, той возьме і папрэ з мужыкамі ў лепшае месца...

— Казалі: заўтра ён будзе...

— Маўчаць! — гыркнуў Пятка, паправіўшы на жываце сваю шырокую дзягу і расставіўшы ногі ў ангельскіх ботах так, як бы зараз нехта павінен падаць яму рускую вінтоўку з доўгім штыхом.

І ўсе забегалі. На драбіну пэцерабіліся насаты і цыганок. За імі чапіўся трэці, і тады затрашчала яна. Тыя, што засталіся ўнізе, заенчылі. Першы ўгары ўшчапернуўся за недагарэлае акно, дрыгаючы на расчыненай раме, усё роўна як толькі што павешаны які. „Цэ-эгла-а!... цэ-эгла-ааа!..." — хрыпеў той. Другому ўжо не было калі перабіраць назад нагамі, скокнуў ён, аж зямля пад ім потым застагнала.

Нічога нікому не зрабілася. Каб гэтак з добрым чалавекам, то забіўся б.

**Сакрат Яновіч**

* ✼ *

ідэм як нуоч і дэнь
хоч нэ пуод руку
на зміэну сэбэ
прывычка бы сорочка біэла
вымітае нэ розбіраўшысь
і бліськіх нэ обласкаеш...
што ж думка
як твар шары
а хто нажыўся

Бога забыў
плывут як піэсня з-над колышкі
жоўты бэрозы
— за край рызы хватаюсь

* ✼ *

гадаеш мою любов
готовы спроста осудіті
— тут я нэ розбэрусь
куолько нас
і котора з тобою ідэ
трымаўшы руку на колышці
і вінэць на головіэ.
пуод закрытою цэрквою
шчэ дэсь лісток пробігае тіхо
— вона ужэ
чы шчэ будэ
дівісь — бачу а нэ росту
тіэло бэру як зэмлю

* ✼ *

тэпэр на твое ласкі
дары по міэры сіл
— выстуканы дэнь бы акс'ёмат
його трымаюсь як дому
а память нэ заважае
і латвовіерносьць
кажду пратягнуту руку
стіскаті до раня
— остала
то з ясного дому батькуов
так встрычают прохожых

што ж: віэр
еслі само прошчаецьця
жду в дубовых рамах

* ✼ *

зэлень мокра
дыхаюшча і жывая
бачу тэбэ
і всё ясно: знаю як трэба
шчэ нэ рву волосув по днях
но віэру словам поэты
што ж — струоймо
раз-два-тры
лычучы
бачу — нэ бачу
— і нэма кунця —
міжду намі як з шпітальнуй салі
аж млейко од осторуожносьці
і знакомы на пальчыках
пуў словом
— — — то зачарованы пэйзаж
і мы як на насміэшку
тут нэ будіт барабан
нэ учыт чорнэ жніво

**З. Сачко**




## ТРЫ ПРАЎДЫ ПРА ТРЫ НЯПРАЎДЫ

Прачытаў я фельетон Алеся Барскага пра мяне, змешчаны ў „Ніве" ад 20 верасня, — „Аб трох няпраўдах". Першапачатковы мой гнеў пачаў пераўтварацца ў спагаду Барскаму: ён жа не павінен увогуле палемізаваць! Ён сапраўды малапрацавіты і допускае кардынальныя памылкі (дагэтуль я не вельмі верыў яму, калі ён называў сябе непрацавітым у фельетоне „Аб працавітасці" ў дваццаць трэцяй „Ніве").

Алесь Барскі папракае мяне ў тым, што я стаўлю пад сумненне ягоную літаратурную творчасць. Ён чамусьці не палічыўся з тым, што ў кожнага ёсць права на сумненні. Тым болей, калі сам аўтар у тым жа фельетоне „Аб працавітасці" як бы падштурхоўвае чытача ў кірунку такога менавіта сумнення, сцвярджаючы пра сябе: „Маю напісаныя, але неапублікаваныя прынамсі шэсцьсот вершаў і больш тысячы афарызмаў (...) ніяк не магу прымусіць сябе, каб перапісаць з чарнавікоў". Ну і як можна шанаваць такую непашану да ўласнай творчасці ў Алеся Барскага? Паўтараю: шанаваць непашану? Твор жа ў чарнавым варыянце — гэта незакончаны твор, трэба яшчэ пасядзець над ім, папрацаваць, з чым не можа тут не згадзіцца Алесь Барскі. Таму гэта я і напісаў словы-агаворкі: „Як зразумеў я" (глядзі: „Нашто нябожчыку свабода?" у „Ніве" ад 2 жніўня).

Такая праўда пра першую няпраўду з тых трох, пра якія піша Алесь Барскі ў „Аб трох няпраўдах".

Цяпер жа пра другую, менавіта: ці рускі пісьменнік Аляксандр Грыбаедаў быў аўтарам толькі аднаго твора, камедыі „Гора ад розуму"? Алесь Барскі папракае мяне і ў гэтым, далікатней кажучы, абзываючы мяне махляром... Я, не давяраючы ўжо сваёй памяці, зараз жа рынуўся да энцыклапедыі і пераканаўся, што памяць мая пакуль што не падводзіць мяне: дарэшты арыгінальным мастацкім творам Грыбаедава і ёсць адзіны — „Гора ад розуму". Дзякуючы гэтай камедыі ён найбольш вядомы ў расійскай культуры. Напісаў і іншыя, але яны не былі цалкам яго аўтарства, былі — або вольнай пераробкай з Крэзо дэ Лесэра, або напісаны супольна з такімі пісьменнікамі, як Каценін, Шахоўскі, Хмяльніцкі і інш. „Гора ад розуму" ў той час і эпоху — сто шэсцьдзесят гадоў назад — скалыхнула чытаючай Расіяй, твор быў забаронены цэнзураю. Людзі перапісвалі гэтую камедыю адзін у аднаго, гісторыкі налічваюць каля сарака тысяч такіх рукапісаў. Гэтая лічба і цяпер ашаламляе, бо можна сабе ўявіць проста шквальную папулярнасць п'есы і яе аўтара, пра маладую смерць якога таксама магчыма ўсяляк падумаць.

Значыць, і ў гэтым пункце палемікі падвяла Алеся Барскага

(Працяг на стар. 7)

## Весткі з Пашкоўшчыны

### СУСТРЭЧА З А. БАРСКІМ

Нашага паэта Алеся Барскага школа ў Пашкоўшчыне (гміна Орля) прывітала выступленнем школьных спевакоў: Касі Залеўскай, Алі Максімюк, Юркі Куліка, Асі Бурак, Êлі Загон, і гарманіста Веслава Залеўскага. Прыгожа спяваюць школьнікі з Пашкоўшчыны. Гэта яны выступалі на фэсце БГКТ у Малінніках, і я тады памылкова напісаў, што яны з малінніцкай школы, за што сёння прашу прабачэння. Падрыхтоўваў самадзейнікаў настаўнік Юрый Жменька.

Алесь Барскі быў вельмі ўзрушаны прывітальным словам дырэктара школы Янкі Добаша і прыгожымі беларускімі песнямі. Ён падзякаваў настаўнікам і школьнікам за беларускі дух у школе, за зацікаўленне беларускай мовай і беларускім мастацкім словам, а затым прадэкламаваў некалькі сваіх вершаў і падпісваў свае зборнікі вершаў „Блізкасць далёкага".

### ПРАКТЫКАНТКА

Анна Кандрацюк, родам з Елянкі пад Кляшчэлямі, з'яўляецца студэнткай IV курса Сельскагаспадарча-педагагічнай вышэйшай школы ў Седльцах (матэматычны факультэт). У мінулым годзе яна была на практыцы ў школе ў Пашкоўшчыне. Спадабалася ёй атмасфера між настаўнікамі і вучнямі, і сёлета яна ізноў у гэтай жа школе адбывала настаўніцкую практыку.

### БАЦЬКОЎСКІ КАМІТЭТ

У Пашкоўшчыне вучыцца 63 дзяцей. Настаўнікаў тут 9. На апошнім бацькоўскім сходзе яго ўдзельнікі гаварылі з настаўнікамі наконт стварэння драмгуртка. Цяпер адбываецца падборка п'есы. **(мх)**

### САРДЭЧНА ЗАПРАШАЕМ

на ўрачыстае святкаванне Вялікага Кастрычніка, якое адбудзецца 8 лістапада г.г. у Доме культуры будаўніка ў Беластоку (вул. Дзяржынскага 14/16) у 17 гадзін. ГП БГКТ і Беластоцкі аддзел БГКТ.



Стары Беласток. Вуліца Сянкевіча. Мал. У. Петрука.

(Працяг са стар. 1)

### СІГНАЛЬНЫ РЭВАЛЮЦЫІ

прымаў удзел у Лютаўскай рэвалюцыі, раззбройваў афіцэраў на крэйсеры. Двойчы быў у ахове Уладзіміра Ільіча Леніна: першы раз у красавіку 1917 г. на Фінскім вакзале і другі — на Пуцілаўскім заводзе ў маі таго ж года. Я. Мартынюк падаваў першы снарад у гармату „Аўроры", гэты стрэл стаў сігналам пачатку штурму Зімовага палаца. Затым ён удзельнічаў у здабыванні гэтага ж палаца і ліквідаванні Часовага ўрада Керанскага. Быў членам, а затым старшынёй рэвалюцыйнага камітэта экіпажа „Аўроры". Сустракаўся з У. І. Леніным у Смольным.

Я. Мартынюк змагаўся супраць войск Карнілава і Юдзеніча, якія намагаліся здабыць Петраград і задушыць рэвалюцыю. Потым працаваў у органах савецкай улады ва Уфе.

Вярнуўшыся на радзіму, Я. Мартынюк працаваў на сваёй гаспадарцы, удзельнічаў у беларускім прагрэсіўным руху на Гайнаўшчыне.

Урад Народнай Польшчы ўзнагародзіў Я. Мартынюка Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР узнагародзіў яго Ордэнам Леніна.

**Б. Нікіцюк**

## ЦІШКА ГАРТНЫ - ТРАГІЧНЫ СЫН НАРОДА

### (ДА СТАГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ)

Бадай што ні з якім іншым беларускім пісьменнікам не абышоўся лёс так парадаксальна, недарэчліва і бязлітасна, як з Цішкам Гартным. З нізін нядолі беззямельнага селяніна, з вясковага пастуха, чорнарабочага гарбара ўзняўся ён на ўзвышшы галоўнага рэдактара „Дзянніцы", выдатнага палітычнага і дзяржаўнага дзеяча, прэм'ер-міністра БССР і акадэміка, каб пасля стацца вязнем той сістэмы, за якую змагаўся, і ўрэшце згінуць ад рук дзяржавы, якую з такой верай і энтузіязмам ствараў.

У часы культу асобы загінулі многія беларускія пісьменнікі. Мабыць, былі сярод іх і такія, якія крытычна адносіліся да новай сацыялістычнай рэчаіснасці. Зразумела, што такім людзям гінуць было параўнаўча лягчэй, чым тым, хто душой і сэрцам быў аддадзены савецкай дзяржаве. Да гэтых астатніх належаў, несумненна, Цішка Гартны, адзін з галоўных барацьбітоў і стваральнікаў БССР.

Цішка Гартны (Зміцер Жылуновіч) нарадзіўся 4 лістапада 1887 года ў сялянскай беззямельнай сям'і ў мястэчку Капыль. Яго дзяцінства спадарожнічала выключнае ўбоства. Малы Зміцер паспрабаваў бадай што найгарчэйшага пастушага хлеба. У ранні юнацтве захапіўся рэвалюцыйнай ідэяй сацыяльнага вызвалення. Разам з групай капыльскай моладзі стварыў згуртаванне „Самаразвіццё і самаадукацыя" і выдаваў рукапісныя журналы на рускай мове „Заря" і „Голос низа". Гэтыя апошні меў дадатак на беларускай мове „Вольная думка". У гэтым часе З. Жылуновіч з'яўляецца ўжо членам Рускай сацыял-дэмакратычнай партыі. Атмасфера першай рускай рэвалюцыі раз і назаўсёды скіравала Жылуновіча на шлях барацьбы і змагання з існуючай царскай сістэмай. З гэтага шляху не зыйдзе Жылуновіч да моманту поўнага падзення Рускай імперыі.

Ва ўспамінах Ц. Гартнага „Дваццаць гадоў назад" знаходзім вельмі цікавыя рэмінісцэнцыі на тэму значэння „Нашай нівы" ў разбуджэнні яго нацыянальнай свядомасці. З часопісам гэтым Гартны сутыкнуўся першы раз у 1908 годзе. І гэта сутыкненне мела характар духоўнага перавароту:

„Прачытаўшы „Нашу Ніву" ад назвы да подпісу рэдактара, я быў у захапленні. Мяне дзівіў не яе змест, не цікавасць расказанага ў ёй матэрыялу, а, галоўным чынам, даступнасць яе, яе блізкасць „духу" вакольнага беларускага жыцця, нарэшце, самы факт друкавання яе на беларускай мове. Апошняе было для мяне адкрыццём. Да гэтага часу я не мог сабе ўявіць, каб тая мова, на якой гутарылі мае

(Працяг са стар. 1)

няцца культурнай дзейнасцю ў гміне і нараўскім ГОКам. Нарва павінна выпрацаваць і праграму і арганізацыю гэтай дзейнасці. Але што можна рабіць на такой базе, як у вас?

Так. ГОК ёсць, святліца даваенная ёсць і... ніякіх умоў працы. Дырэкцыя ГОКа без будынка. Няма інструментаў, бо купіць інструменты — трэба мець дзе іх паставіць. Частыя змены дырэктара ГОКа таксама не служаць працы. Нашы клубы на вёсках слабыя. Няма ў іх працы. Моладзі няма. Я працаваў у гмінным асяродку прапаганды, то ведаю, як справа маецца. Няма заангажавання і ахвоты ангажавацца. І думаю, тут віна і цэнтральных улад немалая — эра камп'ютэраў на свеце, а ў нас няма сапраўднай святліцы. Яшчэ толькі адпустовыя забавы вырашаюць аб культуры. Новыя формы, сучасныя, не выходзяць у нас. Ёсць рэчка Нарва, можна было б арганізоўваць у сезоне цікавыя імпрэзы, ды і на гэта ахвотных няма. Нарва культурна спозненая — гэта факт. І трэба нешта рабіць, каб рушыць з месца.

— Можа пастараемся пашукаць прычыну такога стану культуры ў Нарве?

— У Нарве заўсёды, як помню, праяўлялася невялікае зацікаўленне культурнай дзейнасцю.

— Можа, лічаць сябе тут людзі важнымі мяшчанамі, ці саромяцца чаго?

— Можа. Зацікаўлення ў кожным выпадку няма.

— Інтэлігенцыя ёсць?

# ЦІ НАРВА СТАНЕ КУЛЬТУРНЫМ ЦЭНТРАМ?

— Кожны заняты сваім. Будуюцца людзі, а ўвогуле Нарва — ні то вёска, ні то горад. Такая раздвоенасць адчуванняў, няўпэўненасць у адчуваннях — хто я? — не можа спрыяць і творчым пошукам. І так стан часовасці прадаўжаецца.

— Прабачце, асабіста лічу, што Нарву можам смела аднесці да тыпу гарадскіх пасяленняў. Тут жа функцыяніруюць усе дзяржаўныя і грамадскія ўстановы і арганізацыі. Ды і гістарычныя традыцыі таксама маюць сваё значэнне. Варта, каб нарвяне гэта сабе ўсведамілі і захацелі выкарыстоўваць гэтыя традыцыі ў культурным жыцці пасёлка.

— Гэта цікавая думка. Я аднак хачу яшчэ вярнуцца да базы, якая ў нас ёсць. З будынкам для ГОКа — справа далейшая. Але нават з такой важнай установай, як школа, было ў нас цяжка — даўнейшы школьны будынак стары і цесны. Прыемна сказаць, што заканчваецца пабудова новай школы — вялікай, прыгожай. І я думаю, праз супрацоўніцтва са школай у галіне культуры для ўсяго пасёлка мы зробім першы крок у сістэматычную культурную дзейнасць.

— Вы гаворыце пра заглохлыя вясковыя клубы і калектывы. А Тыневічы? Яны ж моцна праслаўляюць усю вашу гміну.

— Так. Тыневіцкі мастацкі калектыў дае прыклад, як і што можна рабіць, калі вельмі хацець. Цяпер мы ў асноўным і абапіраемся на Тыневічы. Калісьці была яшчэ добрая і актыўная Трасцянка, але засталіся там адны рэнцісты. Я думаю і пра Гарадзіска — някепскі клуб селяніна там ёсць. У Гародчыне актыўны гурток вясковых гаспадынь, пастараемся на ім будаваць далейшую працу. Увогуле хачу шырэй па вёсках дзейнічаць і тут таксама гэту дзейнасць спалучаю са школамі.

— А ў самой Нарве?

— У самой Нарве хачу пачаць ад ПОМа — гэта вялікае шматлюднае прадпрыемства, ёсць там здольныя людзі, а таксама і ГС. Хачу гаварыць з людзьмі працы, даведацца, чаго яны хочуць. Супольна апрацуем план і абмяркуем яго выкананне. Найперш аднак хачу і буду збіраць актыў, з якім штосьці зможам рабіць. Хачу прыцягнуць у гэты актыў больш звычайных людзей. Актыўныя і ахвотныя працаваць у нас больш сустракаюцца сярод старэйшага і сярэдняга пакалення і да іх хачу прыйсці, гаварыць, трэба разам брацца за працу. Сам плач і нараканні нічога не памогуць. Цяжкасці будуць, але так заўсёды, калі пачынаеш нешта рабіць.

Размову вяла **Вера Валкавыцкая**
Фота **Я. Чэрнякевіч**

## ГРАФІК АПЯРЭДЖВАЕЦЦА

Супольныя намаганні арлянцаў і ГП БГКТ у справе пачатковай школы далі добрыя вынікі. Улады прызначылі адпаведныя грашовыя сумы, а арлянцы далі абяцанне працаваць грамадскім чынам. У мінулым годзе Бельскае камунальна-будаўнічае прадпрыемства прыступіла да земляных работ. Ад таго часу мінуў ужо год, і вельмі многа зроблена. Ужо выразна відаць сілуэт будынка. Стаяць сцены першага і другога паверха. Выканаўца не спазняецца, наадварот, графік будовы апярэджваецца. Згодна з планам школьны будынак павінен быць перададзены ў карыстанне восенню 1990 года, але, калі тэмп будовы не зменіцца, усё гаворыць за тое, што тэрмін будзе скарочаны на цэлы год. Так што зусім магчыма, што навучальны год 1989/90 распачнецца ўжо ў новай школе.

У чым сакрэт такіх поспехаў? У сур'ёзным падыходзе да гэтай будоўлі і ў самаахвярнай працы. Добра працуе грамадскі камітэт будовы. Дапамагае школа і жыхары Орлі. А гмінны інспектар асветы Анатоль Мартыновіч у сённяшняй сваёй дзейнасці адводзіць найбольш увагі гэтай пабудове. Ды ўсе будаўнікі новай школы на чале з Мікалаем Крысевічам паходзяць з Орлі і маюць таксама сваіх дзяцей.

У новай школе будзе 16 прадметных кабінетаў, гімнастычная вялікая зала ды іншая, крыху меншая, а таксама вялікая святліца і кухня.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



Расце новы будынак пачатковай школы ў Орлі.

## НАША ПОШТА

**Аляксандр Закройшчык, Гайнаўка.** Вашы карэспандэнцыі пра вучнёўскія спулдзельні і гайнаўскую малачарню занадта агульныя, справаздачныя. З ахвотай надрукуем іх тады, калі перарobіце іх на больш канкрэтныя і цікавейшыя шырокаму чытачу, так, як гэта добра зрабілі вы з іншымі сваімі карэспандэнцыямі, якія мы рэгулярна публікуем.

**Андрэй Гаўрылюк, Бельск.** Што з вамі здарылася, што раз пішаце цікава, раз нудна?! Інфармацыя ў газету будзе тады інфармацыяй, калі можа яна зацікавіць чытача. Толькі такая інфармацыя жыве. Нудная інфармацыя будзе мёртвай, бо мала хто дачытае яе да канца і ў наступную секунду забудзе, што чытаў і пра што. А найгоршыя — паўторы, усё пра тое самае, як, напрыклад, „Экскурсія ў Орлю", „Экскурсія ў Драгічын", „Экскурсія ў Цехановец" ці „Спартакіяда ў Самулках".

І чаму вы раптам перастаеце пісаць па-беларуску? Як, напрыклад, у карэспандэнцыі з Лёндка-Здрою?..

бацькі, сяляне, але якое не відаць было ў кніжках, у школе, у абыходзе крыху бывалых людзей, каб на гэтай мове можна было друкаваць газету. Я бачыў, з якой стараннасцю і школьная моладзь і наяжджаўшыя святамі ў Капыль сэмінарысты, і ўсякі, хто крыху пралазіў у „людзі", цягнуўся да дэлікатнае рускае мовы, на якой у нас гутарылі — станавы, поп, ураднік, старшыня, аптэкар, пісар; я бачыў, як на блытаную расійска-беларускую мову салдата, што вяртаўся са службы ці ў пабыўку, чысцюханька пабеларуску адказвалі іх землякі, але не задаваўся пытаннем, чаму і што гэта.

Вялікая трагедыя абрусення беларускага працаўніка праходзіла паміж майго зацікаўлення. Магчыма так і трэба! Нездарма ж гэтакая павага да таго, хто адцураўся мужыцтва і яго мовы!

Але раптам „Наша Ніва"! Газэта на беларускай мове. Гэта ўжо нешта значыць! У маім нутры заказытала і гордасць і радасць. Успамінаю, якім палкім абаронцам беларускай мовы стаў я пасля прачытання газэты „Наша Ніва". І цікава, што паведзеная мною агітацыя сярод капыльскае моладзі праз чытанне газэты і ўтаворамі за „прызнанне беларускае мовы раўнапраўнай", за яе вызваленне з-пад руціннае пагарды — сустрэла надзвычай цёплую спагаду."

Думаю, што нешта падобнае, але ўжо ў адносінах да „Нівы" маглі б сказаць і многія беларускія аўтары ў Народнай Польшчы. А ці ж далейшыя рэмінісцэнцыі Гартнага, змешчаныя ва „Успамінах" не маюць у сабе аналагічных сітуацый з многімі нашымі „белавежцамі"? Паслухайма: „Першыя беларускія вершы, прачытаныя ў „Нашай Ніве", зрабілі на мяне, сапраўды, галаваўскружнае ўражанне. У маім нутры раптам усё перавярнулася і цяга пісаць па-беларуску зусім у кароткі тэрмін заўладала мною цалкам. Напісаныя раней па-расейску творы паказаліся мне шурпатымі, чэрствымі і бяздушнымі. У іх наглядалася нейкая штучнасць, хоць я, пішучы, стараўся ўкладаць у іх сваё заўсёды хвалюючае пачуццё. Ад нашаніўскіх вершаў павеяла цеплатою непасрэднага жыцця, у якім я адчуў і часціну свайго бытавання".

Вось такім чынам нараджаўся беларускі пісьменнік і барацьбіт за нацыянальную эмансіпацыю беларусаў. Лёс кідае Жылуновіча па ўсёй Беларусі, Украіне, Літве. Урэшце завядзе яго ў Пецярбург. Аднак аддаленасць ад радзімы не толькі не адрывае яго ад роднага, але наадварот — набліжае. Гартны многа гадоў працуе ў страшэнных умовах гарбаром. Пры гэтым, аднак, піша. Яго прозвішча паяўляецца ў „Нашай Ніве" і ўжо ў 1913 годзе выйдзе ў свет зборнічак яго вершаў „Песні". І якія гэта вершы? З аднаго боку, што не з'яўляецца дзіўным, Гартны застаецца ў палоне нашаніўскай паэтычнай традыцыі. Апяванне нядолі беларускага селяніна, плач над лёсам беларускай культуры, адлюстраванне беларускага пейзажу, — усё гэта ўжо было і ў Коласа, і ў Купалы, і ў Цёткі. Аднак, Гартны толькі часткова ідзе па пратоптаных сцежках. Паспрабуе ён увесці ў паэзію незвычайны для тагачаснай беларускай літаратуры новы тып героя — рабочага. Рысуючы яго цяжкі побыт, аўтар захапляецца і яго рашучасцю, і сілай, і дынамікай, і непакорлівасцю. І якраз у гэтым аспекце можам гаварыць аб Гартным-наватары.

Аб сіле і паслядоўнасці Гартнага сведчыць і тое, што трапіўшы ў Петраград, будучы па сутнасці самавукам, гэты фактычна без сродкаў чорнарабочы здолеў выдаваць радыкальную газету „Дзянніца", у якой змясціў не мала як сваіх твораў, так і іншых прагрэсіўных тагачасных беларускіх пісьменнікаў.

(Працяг на стар. 7)

# ЦІШКА ГАРТНЫ — ТРАГІЧНЫ СЫН НАРОДА

(Працяг са стар. 5)

У часе першай сусветнай вайны, а тым болей у перыяд Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый сярод беларусаў як тых, якія асталіся на радзіме, так і тых, якія апынуліся ў бежанстве ў глыбіні Расіі, а таксама беларусаў-салдат-франтавікоў хутка даспявае беларуская нацыянальная свядомасць. Пры гэтым ствараецца цэлы рад палітычных арыентацый: прапольскіх, пранямецкіх, праруcкіх, незалежніцкіх. Цішка Гартны трымае руку на пульсе ўсіх гэтых падзей і працэсаў. Рашуча змагаецца з усімі тымі, хто выступае супраць аддзялення Беларусі ад рэвалюцыйнай Расіі. І яго ідэя перамагае. У пачатку студзеня 1919 года абвяшчаецца ўзнікненне БССР. Першы беларускі савецкі ўрад аб'яўляе „Маніфест". Мяркуючы па зместу і стылю яго аўтарам, праўдападобна, з'яўляецца першы прэм'ер БССР — Цішка Гартны. Праўда, даволі хутка Гартны пакідае пост прэм'ера і выконвае функцыі рэдактара газеты „Савецкая Беларусь", часопіса „Полымя", дырэктара Беларускага дзяржаўнага выдавецтва.

Пачынаецца хуткае развіццё яго творчасці, выходзяць яго паэтычныя зборнікі: „Песні працы і змагання" — 1922 г., „Урачыстасць" — 1925 г.; у зборніках гэтых па-за традыцыйнымі матывамі моцна гучыць хвалюючы гімн у гонар Рэвалюцыі і новага жыцця.

Пачынае праяўляцца творчы універсалізм Гартнага. Выдае ён два зборнікі апавяданняў: „Трэскі на хвалях" — 1924 г. і „Прысады" — 1927 г. Палітычны тон апавяданняў пісьменніка як бы крыху іншы, чым тон яго вершаў. У празаічных формах няма вялікай узнёсласці, пафаснасці і патэтыкі; наогул дамінуе ў іх спакойны апавядальны тон аб звычайных штодзённых падзеях, хаця там-сям і паяўляюцца творы, у якіх вядзецца гаворка аб вялікіх рэвалюцыйных пераўтварэннях.

Творам жыцця ў біяграфіі Гартнага з'яўляецца, несумненна, раман „Сокі цаліны", асобныя часткі якога выходзілі ў гадах 1924-1932. У гэтым рамане, які ў значнай ступені мае аўтабіяграфічны характар, паказаў Гартны духоўны, культурны, палітычны рост беларуса, які, вышаўшы з народных нізоў, упарта прабівае дарогу да ўсё новых і новых узвышшаў.

У трыццатыя гады Гартны напісаў раман „Перагуды" — 1935 г., у якім стараўся паказаць калектывізацыю беларускай вёскі. Твор гэты ўзнік у перыяд нарастання культу асобы і гэта не магло не ўплываць на фармальную і праблемную субстанцыю твора.

Нельга не сказаць і пра драматургію пісьменніка. Напісаў ён п'есы: „Хвалі жыцця" — 1918 г., „Сацыялістка" — 1924 г., „Дзве сілы" — 1927 г.

Зразумела, што розныя п'есы Гартнага маюць розную мастацкую каштоўнасць. Аднак, трэба сказаць, што наогул Гартны не валодаў драматургічным чуццём, і таму яго п'есы не належаць да вялікіх літаратурных дасягненняў.

Для поўні партрэта Гартнага-пісьменніка трэба дадаць інфармацыю аб тым, што быў ён таксама выдатным публіцыстам.

Духоўная і фізічная драма Гартнага пачалася ў канцы дваццатых гадоў, калі ён разам з іншымі пісьменнікамі прымаў удзел у так званай тэатральнай дыскусіі. Гартны, як і іншыя беларускія пісьменнікі, даказваў, што беларускія тэатры павінны ставіць перш за ўсё беларускі рэпертуар. Гэтую, здавалася б, элементарную праўду палічылі праявай беларускага нацыяналізму. Літаратурныя пісарчукі пачалі граміць Гартнага як нацыяналіста, здрадніка і ворага народу. Нават Беларуская Савецкая Энцыклапедыя з 1971 года піша: „У творчай і грамадскай дзейнасці меў шэраг памылак нацыяналістычнага характару, за што ў свой час крытыкаваўся савецкай грамадскасцю, а ў 1931 годзе выключаны з ВКП(б)". І ані аднаго слова аб тым, што быў арыштаваны і знішчаны 11.IV.1937 г. і, зразумела, ніякага асуджэння гэтага злачыннага акту.

Новая атмасфера ў жыцці Савецкага Саюза, інспіраваная адвагай і сумленнасцю Гарбачова не толькі дазваляе, але і прымушае нас гаварыць праўду аб ахвярах сталінскай самаволі, у тым ліку і аб трагедыі вернага і трагічнага сына Беларусі Цішкі Гартнага.

**А. Баршчэўскі**

(Працяг са стар. 4).




ягоная непрацавітасць дакладна апісаная ім самім, дарэчы кажучы.

З трэцяй няпраўдаю, якую хоча знайсці ў мяне Барскі, будзе і самому мне цяжэй змагацца. Яго папрок у мой адрас датычыць багалюбства і небагалюбства, чаго не праверыш цытатаю ці зазірнуўшы ў энцыклапедыю. Я, будучы на месцы Алеся Барскага, не рызыкаваў бы дэкларацыяй, што ніколі не дапусціўся небагалюбства, часта ж паказваючы сябе настойлівым атэістам. Вядомыя яшчэ і сёння прэтэнзіі да Алеся Барскага з боку веруючых за ягоныя выслоўі ў „Ніве" або ў час сустрэч сваіх з чытачамі. І не пачну ж рыцца ў старых нумарах „Нівы", каб вышукоўваць небагалюбныя фразы Барскага, напісаныя пяць або дзесяць ці дваццаць гадоў таму назад, бо гэта было б ужо сваркаю, а не палемікаю, было б заядласцю.

Прэтэнзія Алеся Барскага да рэдакцыі „Нівы" за тое, што яна надрукавала мой фельетон „Нашто нябожчыку свабода?", бадай, наймацней здзівіла мяне: дакладна такую ж прэтэнзію мог бы мець і я, чаму надрукавалі фельетон Барскага „Аб трох няпраўдах"! Ці ж гэта было б дэмакратычна? Рэдакцыя не павінна мець манаполь на праўду, бо праўда павінна вылазіць наверх, як тое шыла з мяшка, у палеміцы і барацьбе аргументамі якраз.

**Мікалай Панфілюк**

# БЕЗ ЭЛЕКТРЫЧНАСЦІ НЯМА БУДУЧЫНІ

У памяшканні Бельскага энергетычнага раёна адбылася ўрачыстасць, прысвечаная Дню энергетыка. Ушанавалі яе сваёй прысутнасцю сакратар гаркома партыі Януш Панасюк і намеснік начальніка горада Казімеж Прус. Былі — дырэктар энергетычнай сістэмы з Беластока Эдмунд Барткоўскі і прадстаўнік прафсаюзаў Ніна Нікалаюк, таксама з Беластока. Святочную акадэмію вёў Ян Іванюк, брыгадзір і тутэйшы прафсаюзны дзеяч.

Былі і ўзнагароды. Бронзавы крыж заслугі атрымаў Сяргей Ткачук, а Бронзавы знак „Заслужаны для Беласточчыны" — шматгадовы работнік энергетычнага раёна, шафёр Ян Аніщчук; значкам Заслужанага работніка Цэнтральнай энергетычнай акругі ўдастоены Аляксандр Грыгарук, брыгадзір энергетычнага пастарунка ў Гайнаўцы.

Сорак іншых энергетыкаў атрымалі павышэнне.

Сяргей Ткачук як кіраўнік Энергетычнага раёна выступіў з гутаркай наконт заданняў калектыву ў перспектыве бліжэйшай будучыні. Усіх работнікаў у гэтым раёне — сто пяцьдзесят. Работы нямала, усюды электрыфікацыя, развіццё прамысловасці і сельскай гаспадаркі якая таксама ў штораз большай меры карыстаецца электраэнергіяй. Разгортваецца эканоміка, растуць і задачы для энергетыкаў.

**Жэня Мартынюк**

Пад восень велічны каралеўскі карагод выехаў з Кракава, пасоўваўся паволі, з годнасцю. Далучыліся да яго абодва мазавецкія князі — плоцкі Семавіт з жонкай Аляксандрай, роднай Ягайлавай сястрой, і чэрскі Януш са сваёй княгіняй Аннай, дваюраднай каралеўскай сястрой. І няма чаго дзівавацца — узыход Ягайлы на каралеўскі трон быў узвелічэннем усіх нашчадкаў Гедыміна!


Рыцарства Вялікага княства Літоўскага.

Можна не сумнявацца, што Вітаўт, які заўсёды любаваўся ў раскошных гасцінах,ператварыў гэты некалькідзённы пераезд караля па яго ўладаннях у гучны фэст. Вітаўтавы ціуны паклапаціліся, каб уздоўж належна дагледжанага гасцінца было людна і прыстойна, а месцы прыпынку ці начлегу адпавядалі вымаганням каранаванай асобы і яе світы. А ў свіце было нямала вяльможаў бывалых на каралеўскіх дварах тагачаснай Еўропы. Простыя баяры і кметы таксама з цікаўнасцю прыглядаліся гэтым незвычайным важнасцям ды пышнасцям: як-ніяк ехаў „свой" кароль!

Мабыць, з таго часу павялася назва ўрочышча Каралёвае Стойла, якая адносіцца да ўзмежку колішняй Гарадзенскай пушчы і пабярэжжа ракі Супраслі (у 6-7 кіламетрах на паўночны захад ад Гарадка). Нельга ж абмінаць і тое, што Ягайла быў заўзятым паляўнічым. Пачыналася якраз восень — залатая пара паляванняў на пушчанскага звера. А тут, у сутоках рэчак Плоскай і Сакалды з Супраслю, ужо ў тыя часы прасціраліся вялікія лясныя масівы, і Вітаўт мог запрапанаваць каралю і яго світе адвесці душу на паляванні. Ягайла з прапановы, відаць, скарыстаў, забава цягнулася некалькі дзён і звычайны прыпынак стаў даўгаватым „стойлам". Яго неабходна было забяспечыць адпаведнай абслугай, а паляванне — нагоншчыкамі. Усё гэта хутка прыходзіла з суседняга Гарадка і навакольных сёлаў.


Скамарохі (паводле роспісу, знойдзенага ў Кіеве).

Ці ёсць падставы спалучаць паўстанне назвы ўрочышча на рэчцы Супраслі з прыпынкам у ёй якраз караля Ягайлы ўвосень 1386 года, а не з „папасам" тут іншых каралёў? Потым жа праязджалі сюдою і, магчыма, затрымліваліся на паляванні іншыя з іх, у тым ліку і апошні — Станіслаў Аўгуст. Адказ тут толькі адзін: якраз таму, што гэта было першае стаянне тут першага „свайго" караля, яно і замацавалася ў назве, якой сёлета пераваліла за 600 год. А пры нагодзе краязнаўчых вандровак па Беласточчыне варта наведаць гэтую маляўнічую мясцовасць і палюбавацца яе сапраўды каралеўскаю красою.

Відаць, асабліва шчодра караля са світай прымаў Вітаўт у сваёй любімай Горадні. На замку, у княжацкіх багата здобленых роспісам павалушах не спыняўся банкет, які развесялялі песнямі і танцамі скамарохі, на дзядзінцы ж быў наладжаны рыцарскі турнір. І разважлівы Ягайла і задуменны Скіргайла адчулі, на што мерыцца гэты неўтаймаваны Кейстутавіч.

**Мікола Гайдук**
Мал. У. Петрука

# НЯМОГЛЫ БАЦЬКА

(Працяг са стар. 9)

Прыняў іх разам з калёсамі мокры і чорны лістападаўскі лес. Часцей і часцей пачалі трапляцца між дрэў аленевыя, а можа, і чалавечыя косці.

Прыехалі. Зрабіў Пятро з яловага лапніку будан, паклаў у салому торбу. Нацягаў сушняку, насек яго дробна. Развёў цяпельца. Дастаў з торбы хлеб, сала, біклажку з віном.

— Гэта нашто? — спытаў бацька. — Бяры ўсё. І салому бяры.

— Татка, — глуха сказаў Пятро, — няўжо ты думаеш, што я цябе тут пакіну?

— І пакінеш. Бо Закон. Заб'юць цябе, — сказаў бацька.

— Не бойся за мяне, — адказаў Пятро і паехаў. Заміргаў у гушчары за спіною агеньчык. Знік.

Ноч у лесе, сутонне ў вёсцы. Гнат ля хаты зіркае на воз.

— Салому ўсё ж пакінуў?

— А што? Чысцей будзе!

Усю ноч праварочаўся ў хаце Пятро. А наступнай ноччу, пакінуўшы ў стайні каня, пайшоў крадком у пушчу. Доўга блукаў. Няма агню і няма. Усё, значыцца, ясна. Замарыў бацька агонь, каб лішне не мардавацца. Не паверыў. Ды й праўда, не было такога яшчэ на свеце.

...Аж раптам... „Ёсць ён! Ёсць агонь! Ёсць!"

Бяжыць ён на агонь. Галіны яму вочы высцёбваюць. А агонь зусім згасае. І нібы згасае ля яго скрučаная постаць.

— Татка! Татка! — крычыць ён і спяшаецца. То бацьку абдымае, то косці аленевыя збірае і кідае ў будан. — Памерці хацеў. Не паверыў.

Ускінуў бацьку — лёгкага — на гершкі і нясе. А агонь за імі згасае-згасае. Згас. І чуе Пятро — мокрая ў яго патыліца.

— Ты што, плачаш?

— Плачу. За цябе. Цяпер можна расказваць. Ведаеш, чаму такіх дужа старых на вёсцы — адзін я?

— Ведаю. Бітва была дзесяць гадоў назад.

— Так. Напалі. І мы ўсе, хто на парозе, — перад дарогаю ў лес — выврашылі патаемна: лепей ужо там легчы, чым ад сваіх... Усе палеглі, адзін я застаўся.

Прынёс Пятро бацьку ў хату, адгарадзіў частку каморы і зрабіў там прапазы на гару ды ў падпамосце. Адтуль — на панадворак. І там бацька стаў жыць. Глухой ноччу — у хаце, удзень — у падпамосці і на гары. А ноччу цёмнай і па двары патупае. Як ваўкі жылі, ад усіх хаваючыся. Але жылі.

У той год пала на людзей нібыта нейкая кара. Ураджай быў — на кацiную долю, ледзь зіму перажыць.

„Нічога, — думалі людзі, — неяк дажывём да шчаўя. Абсеяцца — ёсць жыта ў ссыпных ямах. А там яно, можа, і ўродзіць".

Аж не. Напалі якраз перад вясной суседзі (у іх яшчэ горш было), пачалі людзі з імі біцца. Гарэлі свірны, усё насенне ў ямах папяклося — ні гаспадарам, ні суседзям, якіх адбілі. Людзі спачатку раўлі пад супольным дубам, а пасля і рукі апусцілі: жывымі ў зямлю трэба класціся.

Прыйшоў Пятро дахаты ды й кажа бацьку: так вось і так, усе паміраць будзем.

— Кара. Закон пераступіў, — кажа бацька. — Не шкадуеш?

— Не. Зіму разам. І цяпер — усе разам. Такі Закон — мой.

— Нашто ўсе разам? Хадзі, нешта скажу.

...І вось з'явіўся Пятро зноў пад дуб, дзе прыбітая змаўчала ўся грамада.

— Усё, — толькі й сказаў сусед Максім, — цяпер дзяцей заб'ю, а пасля і сам. Ані зерня пасеяць... Ну, Пятро?

**Заканчэнне ў наст. нумары**

## ПАЗНАЁМІМСЯ

— ✲ —

БССР, 222395, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, к.п. Нарач, вул. Набярэжная, д. 3, Аксана Раліч, 5 клас.

— ✲ —

БССР, Мінская вобл., г. Мядзель, вул. 1 Мая, д. 57, кв. 36, Ялена Радыён.

— ✲ —

БССР, Мінская вобл., Мядзельскі р-н, к.п. Нарач, вул. Турысцкая 1, Таня Мураўская, 8 клас.

— ✲ —

БССР, 210009, г. Віцебск, вул. Міра, д. 26, кв. 57, Іна Пракоп, 8 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 7, кв. 34. Юля Кучук, 4 клас.

— ✲ —

БССР, 220092, г. Мінск-92, вул. В. Д.-Марцінкевіча, 6, кв. 177. Іра Мазоль, 7 клас.

— ✲ —

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 7, к. 2, кв. 64. Вераніка Ядлоўская, 3 клас.

## ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* ✲ *

— Пеця, хто табе ў апошні час памагаў рабіць дамашнія ўрокі? Ты лепш пачаў вучыцца! — хваліць настаўніца.

— Ніхто не памагаў. Толькі часу ў мяне цяпер больш.

— Чаму больш? — здзіўляецца настаўніца.

— Бо ў нас тэлевізар папсаваўся.

* ✲ *

— А дзе твой брат, Міша?

— Ён яшчэ са школы не вярнуўся. Грае на кларнеце. Мы з ім у дуэце граем. Але я раней скончыў.

* ✲ *

— Ты чаго ўжо сёмы раз зубы чысціш? — пытаецца бацька.

— Каб тэлы тыдзень мець гэтую работу зробленую, — адказвае сын.

* ✲ *

— Дзіўная рэч, Пеця, я не магу знайсці сваю машыну, не помню, дзе я яе пакінуў.

— Дык едзьце, дзядзька, аўтобусам.

— Не магу, ён не ходзіць у мой гараж.

## ВУЧНЁЎСКАЯ ТВОРЧАСЦЬ

Галя збірае яблыкі для Гусара. Мал. Асі Давідзюк.



## НАШЫ ПЕСНІ

Муз. Ю. Савіна
Сл. А. Вольскага

### КАЛЫХАНКА



Змрок ляжыць навокал,
Як гушчар лясны.
Да сцямнелых вокнаў
Падыходзяць сны.

Спаць усім належыць
Па зыходзе дня.
Недзе ў Белавежы — 2 разы
Дрэмле зубраня.

Між ялін кашлатых
У сваім дупле
Спяць ваверчаняты
Ў цішы і ў цяпле.

І крыклівай сойцы,
Што ў гняздзечку спіць,
Аж да ўсходу сонца — 2 разы
Дзетак не будзіць.

За акном мільгае
Зорак карусель.
Глянь, табе міргае
Зорны карабель.

Спяць у лузе краскі, —
Ты чаму не спіш?
Можа, сёння ў казку — 2 разы
Ў сне ты паляціш...

## ВЫШЫВАЕМ

Толькі для дзяўчат







бёлы
чырвоны
ружовы
цёмначырвоны
ясназялёны
цёмназялёны
жоўты

## А-Д-Г-А-Д-А-Н-К-А



Вецер сарваў лісце з дрэў, закружыў ім і парваў. Які гэта ліст? Выражце кавалачкі і склейце. Размалюйце адпаведным колерам.

Байка

## МАТЫЛЬ І ЧАРВЯК

У садзе летнім вечаркам
Матыль сустрэўся з Чарвяком
(Ці можа матыліха)
І наракаць пачаў на лёс:
— Ну што за ліха!
Куды ні сунеш нос,
Усюды хларафос,
Запырсканы і сад і агарод.
І між людзей ідзе гаворка,
Што хутка згіне пладажорка,
Звядзецца наш старынны род.
Мне гэта слухаць горка.
Ты можа вылезеш, паглядзіш
І што-нішто парадзіш.
— Пакінь, сваяк!
Я гэтым не ўстрывожаны ніяк, —
Сказаў тут Матылю Чарвяк,
Што ў яблыку сядзеў, —
Гаворак тых аб нейкай там бядзе
Я слухаць не хачу.
Сяджу, маўчу
І мякаць сакавітую тачу,
Знаходжуся ў надзейным стане,
Ніякі хларафос мяне тут не дастане.
Якой ты ад мяне жадаеш дапамогі?
Калі я ем,
Дык глух і нем,
І што мне да тваіх праблем! —
Без клопату і без трывогі
Далей грызе ён яблык свой,
Хоць смерць ужо над галавой.

**Кандрат Крапіва**



# НІЎКА



## У СУДЗЕ

Ісцец: — Ён назваў мяне аслом, высокі суд!

Суддзя: — Мабыць, ён гэта зрабіў у парыве гневу?

Ісцец: — О не! Ён спачатку доўга і ўважліва на мяне глядзеў!

## НАШЫ ДЗЕЦІ

— У мяне мамін нос, а вочы таты, — гаворыць адзін хлопчык.

— А ў мяне лоб як у дзядулі, а вушамі я ў дзядзьку, — гаворыць другі.

— А я нашу нагавіцы майго старшага брата, — заўважае трэці.

## НУ І НУ!

Пані Задрыпкоўская, абшукаўшы шафу, звяртаецца да мужа:

— Ты не бачыў маю ўчарашнюю суkенку?

— Не.

— А што ты хаваеш у кулаку?



Усё жыццё глядзеў ва ўсе вочы, але нічога істотнага так і не ўбачыў.

## НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Звоніць тэлефон. Трубку падымае бацька трох дачок. Не паспеў ён разявіць рот, як голас у трубцы пяшчотна спытаў:

— Гэта ты, мая жабка?

— Не, — адказаў, бацька, — гэта гаворыць уладальнік сажалкі.

*

Фермер пытае ў практыканта:

— Ты пазначыў усю жыўнасць?

— Так.

— Цяжка было?

— З каровамі і коньмі не, але з пчоламі я намучыўся.

*

Два каўбоі размаўляюць у бары:

— А ты іграеш на якіх-небудзь музыкальных інструментах?

— Вядома. І на піяніна, і на акардэоне, і на аргане, нават пераліччыць цяжка.

— І на скрыпцы? — недаверліва пытае першы.

— Спрабаваў, нічога не атрымліваецца. Маленькая вельмі, і карты з яе ўвесь час падаюць.

## МЫ З ЗАДРЫПАНКІ

У бальніцу прывозяць моцна пабітага задрыпанца. Лекар з разуменнем ківае галавою і пытае:

— Самаход?

— Так, — пацвярджае задрыпанец.

— Залішне хутка ехалі?

— Не, занадта паволі ішоў.

### ДОКАЗ

— Здаецца, Аглаблёвіч памёр.

— Адкуль гэта ты? Чытаў некролаг?

— Не, але так нейк добра ўсе аб ім гавораць.

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПАКУЛЬ БЕЗ СКАРАЧЭННЯ ШТАТАЎ...

На новыя ўмовы сумеснага жыцця перавяла Адрыяна Вавёрку яго жонка. Цяпер пасля вылічэння з мужа штомесячнага падаходнага падатку ў памеры акладу і прэміяльных, ён аўтаматычна пераводзіцца на самафінансаванне.



# МІНІВЕРШЫ

## ТОЛЬКІ РАЗ

Мы па нядбайнасці уласнай
З агнём жартуем вельмі
часта,
Але затое у адказ
Агонь жартуе толькі раз.

**Іван Стадольнік**

## НА ЎСЯЛЯКІ ВЫПАДАК

Чакаў ён рыбнагляд у госці,
А сам вастрыў употай косці.

**М. Скобла**

## ШТО ТАДЫ?

Зязюля лічыць нам гады.
Зязюль не стане. Што тады?

**Мікола Мінчанка**




# КУРЁЗЫ

## НЕ СПЯШАЮЧЫ...

Італьянская пошта працуе не то каб дрэнна, але страшна марудна. Не так даўно ў Рыме быў праведзены наступны эксперымент: у паштовыя скрынкі ўкінулі 400 пісем, адрасаваных у Мілан. Выявілася, што карэспандэнцыя перадольвала адлегласць паміж двума гарадамі ад 6 да 16 дзён. Рымскія легіянеры Цэзара ў даўнія часы перамяшчаліся мала чым марудней.

Каб паскорыць дастаўку карэспандэнцыі, італьянская служба сувязі выпусціла новую паштовую марку вартасцю 20 тысяч лір. Пошта абавязана даставіць адрасату пісьмо з гэткай маркай за 24 гадзіны. Ужо створана новая фельд'егерская сувязь, якая займаецца дастаўкай падобных пісем у асноўныя гарады краіны. Зрухі ёсць. А між тым у італьянскім друку час ад часу з'яўляюцца паведамленні аб дастаўцы пісем, адпраўленых яшчэ... з акопаў першай сусветнай вайны...

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРА СМЕРЦЬ

У час падарожжа па адной з правінцый Гейнэ прачытаў у „Агульнай нямецкай газеце" паведамленне пра сваю смерць.

— Найбольш мяне абурыла тое, — гаварыў Гейнэ, — што рэдактар не змясціў гэтага паведамлення на першай старонцы.




Начальнікі добрыя тым, што не гоняцца на месцы сваіх падначаленых.